# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36071

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 46 (1696) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 13 ЛІСТАПАДА 1988 г. ЦАНА 20 зл.





*Прэзідыум XI з'езда: (злева) Аляксандр Баршчэўскі, Кастусь Майсеня, Аляксей Карпюк, Анатоль Мартыновіч, Янка Зенюк, Міхась Хмялеўскі і Віктар Швед.*




У нядзелю, 23 кастрычніка 1988 года, у памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ на вул. Варшаўскай 11 у Беластоку адбыўся ўжо **адзінаццаты** па чарзе з'езд **Беларускага грамадска-культурнага таварыства** ў Польшчы. На 117 правадзейных дэлегатаў у з'ездзе ўдзельнічала 96, што складала 82 працэнты. З'езд меў поўныя правамоцтвы, каб вырашаць усе справы, прадбачаныя статутам БГКТ.

Апрача дэлегатаў, наш з'езд уганаравалі шматлікія госці: Дзіяна Чаркасава — прадстаўнік Беларускага таварыства „Радзіма" і намеснік рэдактара штотыднёвіка „Голас Радзімы", які выдаецца ў Мінску і прызначаецца суайчыннікам за мяжою, а таксама Любім Капыленка — намеснік дырэктара Дома савецкай культуры, навукі і тэхнікі ў Варшаве; прадстаўнік Цэнтральнага Камітэта ПАРП, адказны за справы нацыянальных меншасцей у Польшчы — Аляксандр Баляхоўскі, работнікі Міністэрства ўнутраных спраў — Станіслаў Дэмянюк і Гжэгаж Станэйка. Уладзіслава Півонская прадстаўляла Міністэрства нацыянальнай адукацыі; ад Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку быў сакратар ВК Станіслаў Сэнкоўскі, а Ірына Лабовіч — ад Ваяводскага камітэта Аб'яднанага людовага стронніцтва. Госцем З'езда быў прафесар Пётр Борань — старшыня Ваяводскай рады ПРОН, а таксама працаўнік куратрыі, інспектар па беларускаму школьніцтву — Станіслаў Крэнтоўскі; Здзіслаў Ліпскі — старшыня Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў, аднаасобных сялян і сялянскіх арганізацый ды шмат яшчэ якія іншыя работнікі Ваяводскай управы ў Беластоку і грамадскіх арганізацый. Вельмі ж прыемная неспадзяванка сустрэла нас ад імя Войцеха Ярузельскага, які ў тэлеграме з'езду, дзякуючы за запрашэнне, жадаў поспехаў. Былі яшчэ прывітальныя тэлеграмы ад Саюза беларускіх пісьменнікаў у Мінску, ад кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і Галоўнага праўлення УТСК. Прывітанні ад таварыства „Радзіма" зачытала Дзіяна Чаркасава.

Гасцей вельмі сардэчна прывітаў і тэлеграмы адчытаў А. Баршчэўскі. Затым кіраванне з'ездам пераняў прэзідыум, а дэлегаты згадзіліся, каб старшынямі з'езда былі: дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім — Аляксей Карпюк і гмінны інспектар асветы ў Орлі — Анатоль Мартыновіч.

Раней, аднак, вельмі спрыяльную атмасферу дзеля творчай працы з'езда стварылі нашы самадзейнікі, падрыхтаваныя нястомным Сяргеем Лукашуком. Асабліва незабыўна праявілі сябе дзеці з Бельска, Гайнаўкі і Кляшчэляў.

Справаздачу аб дзейнасці Галоўнага праўлення БГКТ за чатырохгадовы перыяд папярэдняга склікання (кадэнцыі) дэлегаты атрымалі загадзя, разам з запрашэннямі на з'езд ды іншымі дакументамі. Дык старшыня А. Баршчэўскі выступіў толькі з кароткім, але змястоўным дакладам.

Мінулы перыяд, — адзначыў старшыня, — быў перш за ўсё часам намаганняў за пабудову Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Зроблена настолькі многа, што ўжо зараз ёсць цвёрдая і поўнасцю абгрунтаваная ўпэўненасць, што музей будзе. Асабліва выдатна і ахвярна пастараліся беларусы, пражываючыя ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Бельгіі ды ў іншых краінах. Яны таксама сабралі ўжо дастатковую колькасць валюты, каб купіць супер-сучасную друкарню, якая будзе асновай для наладжання аўтаномнай БГКТоўскай выдавецкай справы.

Уладзімір Юзвюк, як старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі, у сваім дакладзе засяродзіўся на крытычным разглядзе

(Працяг на стар. 6)

Пачатак культурнага года




Два дні — 12 і 13 кастрычніка, як бы ў дзвюх частках, адбывалася сёлета штогадовае культурнае мерапрыемства, якое называецца Інаўгурацыяй (пачаткам) культурнага і мастацкага года на Беласточчыне. 12 кастрычніка яно праходзіла ў клубе жыллёвай спулдзельні „Сток" на „Сонечным стоку". А другая частка — 13-га — адбылася ў старажытным Мельніку над Бугам.

У Беластоку мерапрыемства прайшло без асобых прымет, надта афіцыйна. З яго толькі занатавала я, што сярод дзесяткаў адзначаных і ўзнагароджаных дзеячоў культуры былі і прозвішчы людзей, звязаных з культурнай дзейнасцю беларусаў на Беласточчыне, хоць пабач прозвішчаў двух з іх нават не было сказана, што яны якраз прадстаўляюць беларускую дзейнасць. І так, аб Міхасю Хмялеўскім, які атрымаў адзнаку „Заслужаны дзеяч культуры", было сказана толькі „журналіст" (а ён жа журналіст „Нівы" — хіба ж розніца вялікая!). Ля прозвішча Сакрата Яновіча сказалі — „пісьменнік" (а ён жа пісьменнік беларускі ў Польшчы!). Гонар БГКТ падтрымалі толькі Дзмітры Шатыловіч і Кастусь Масальскі, аб якіх паведамілася, што яны „культурныя дзеячы Беларускага таварыства".

Вельмі цікава прайшла другая частка інаўгурацыі культурнага года — у Мельніку. Мерапрыемства гэтае было спалучана тут з адкрыццём новага прыгожага будынка Гміннага асяродка культуры, які будаваўся з перапынкамі ад 1975 года, а фактычна апошнія тры гады. Чаму з перапынкамі, спытаеце. Бо не было ахвотных узяцца за пабудову, хоць улады мястэчка шукалі і праводзілі розныя размовы з рознымі будаўнікамі. Нічога не дасягнуўшы, закасалі рукавы і самі пайшлі будаваць свой дом культуры. Можна сказаць, што даслоўна рукамі саміх жыхароў Мельніка, рукамі саміх бацькоў мястэчка быў збудаваны гэты прыгожы культурны цэнтр, аб якім начальнік гміны сказаў проста: „Будынак такі быў напраўду нам патрэбны". З найбольш заслужаных будаўнікоў назаву чатыры прозвішчы: Віталіс Снежка — былы

(Працяг на стар. 4)

Асноўнай справай, для якой сабраўся гэты з'езд, былі, аднак, выбары новых улад. Праходзілі яны ў атмасферы захавання ўсіх прынцыпаў поўнай дэмакратыі і роўнасці. І звонку, значыць, ад якіх-колечы ўлад ды ўстаноў ніхто не ўмешваўся да выбарчай працэдуры, не прапанаваў загадзя назначаных „шэфаў“. Найперш дэлегаты рашылі праводзіць выбары тайна, а выбраныя гэтакім спосабам члены новага ГП БГКТ — таксама ў тайным галасаванні — рашылі, хто будзе старшынёю Прэзідыума ГП БГКТ. Пададзены былі два кандыдаты: А. Баршчэўскі і С. Яновіч — абодва вядомыя літаратары. Пяццю галасамі перамог д-р **Аляксандр Баршчэўскі**, якому жадаем вытрымкі ў ажыццяўленні пастаноў XI з'езда БГКТ.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Старшыня ГП БГКТ д-р Аляксандр Баршчэўскі.*

## ВІНШАВАЛЬНЫЯ ТЭЛЕГРАМЫ

*

**I Sekretarz KC PZPR Tow. Wojciech Jaruzelski dziękuje za zaproszenie na XI Zjazd BTSK, pozdrawia wszystkich uczestników Zjazdu i życzy owocnych obrad.**

*

**Owocnych obrad wraz z najlepszymi życzeniami dalszych sukcesów w działalności bratniej nam organizacji przesyła**

**ZARZĄD GŁÓWNY UTSK**

*

**Саюз пісьменнікаў Беларусі горача віншуе нашых сяброў — удзельнікаў З'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку і жадае поспехаў у працы на ніве беларускай культуры, на ніве беларуска-польскага братэрства.**

**Сакратарыят СП БССР Танк, Гілевіч, Зуёнак, Жук, Скварцоў.**

*

**Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта перадае дэлегатам XI з'езда БГКТ найлепшыя пажаданні і глыбока верыць, што яго пастановы прычыняцца да развіцця беларускай культуры ў Польшчы.**

# СЛАВА АХВЯРАВАЛЬНІКАМ!

Кожны раз, калі пачынаю чытаць „Ніву“, заглядаю на 11 старонку, дзе змяшчаецца спіс ахвяравальнікаў на Музей помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Ахвяраванні паступаюць не толькі ад жыхароў Беласточчыны, але і ад беларусаў, раскінутых па ўсім свеце.

Ахвярадаўцы адчуваюць неадкладную патрыятычную патрэбу прыйсці з матэрыяльнай дапамогай Камітэту пабудовы музея, каб захаваць для наступных пакаленняў здабыткі нашай беларускай духоўнай і матэрыяльнай культуры, увекавечыць барацьбу нашага народа за свае правы, за тое, каб беларусы маглі людзьмі звацца.

У гісторыі беларускага народа многае з культурна-гістарычнай спадчыны загінула бясследна. Былі ў мінулым такія перыяды, калі нашыя ворагі імкнуліся выкрасліць народ беларускі і яго здабыткі з паверхні нашай планеты.

Але народ беларускі жыў да нас і пасля нас жыць будзе! Астаецца нам, беларусам і прыхільнікам нашым рабіць усе магчымыя намаганні, каб справу музея давесці да канца. Патрабуе гэта многа фінансавых сродкаў і думаю, што нашыя ахвяравальнікі не будуць шкадаваць граша на так гістарычна важную справу, а Камітэт пабудовы заложыць „Залатую кнігу“, дзе ўпіша ўсіх ахвяравальнікаў, якія дапамаглі ў будове Беларускага музея ў Гайнаўцы.

Слава вам, ахвяравальнікі!

**Кастусь Сідаровіч**

Людскія лёсы

## ДА ЧАГО ЧАЛАВЕК ДАЖЫВАЕЦЦА

Было гэта даўней. У вёсцы Плёскі жыў нейкі чалавек. Называлі яго Васіль. Меў ён жонку. Не мелі яны дзяцей. Гэты Васіль быў вельмі скупы. І жылі людзі ў бядзе.

У Васіля была адна карова, адзін конь і жалезны воз. Гэты чалавек любіў толькі самога сябе. Жонка ў яго была за служанку. Біў, катаваў яе, аж кабета аднойчы павесілася на лаве ў сенях. Мучыў ён і карову, каня, аж наканец і сам памёр. Людзі пахавалі яго.

Доўга яшчэ не маглі забыць Васіля. Хадзілі розныя гутаркі людзей ад аднаго канца вёскі на другі. Усе гаварылі толькі аб ім.

Прайшло некалькі год — і ўсё заглохла. Вось да чаго дажыўся чалавек!

* * *

Жылі на вёсцы, у Канюках, адны людзі. Мелі аднаго сына. Калі той сын у бацькоў падрос, стаў хадзіць па лясах — лавіў людзей і страшыў. Аброс, непадобны стаў на чалавека, як бы ўрос у лес. Усе яго баяліся. Доўга ён блукаў па палетках і лясах, пакуль дзесьці не знік, што і слых па ім загінуў.

Успамінаю я аб гэтым чалавеку і розныя думкі ходзяць па галаве. Вось лёсы чалавечыя!

* * *

У вёсцы Плёскі жылі-былі дзед і баба. Яны паставілі хатку. Дзед называўся Майтак, а баба Алеся. Жылі яны бедна. Кладавіліся спаць з курамі, бо і хатка іх была прыстаўлена да куратніка. Сені былі адны — для людзей і для курэй. Жылі так з курамі разам. Працавалі доўга на гаспадарцы.

Бабуля была старанлівая, чыстая, міласэрная. Затое дзед быў нядобры. Хадзіў па розных жанчынах. Бабуля згорбілася ад цяжкай працы і старасці. Моцна перажывала, што не мае дзяцей і не будзе каму яе пахаваць.

Памёр дзед, а пасля і бабуля. Пахавалі дзеда, пахавалі бабу чужыя людзі. Пасля нейкага часу развалілася хатка. На тым месцы астаўся толькі пляц.

Прайшло некалькі год. Чужыя дзеці гулялі на тым пляцы, дзе жылі дзед і баба. Аднойчы адзін хлопец пачаў капаць ямку ў пяску. Капаў-капаў і выкапаў многа золата і манет. Людзі яшчэ пры жыцці дзеда пагаворвалі, што дзед копіць золата, але ніхто напэўна не ведаў. Вось які лёс!

**Валянціна Дзенісюк**

і ў Навасёлках, і ў Сакольшчыне, і цяпер у Сонічах, усюды бацькі патрабавалі, каб іх дзеці вывучалі польскую мову ў школе. Яны смела кіравалі свае заявы па гэтаму пытанню да вышэйшых улад. Аднак, доўга — без ніякага поспеху.

Справа рушыла з мёртвага пункта толькі з пачаткам гэтага школьнага года. У Гродзенскім раёне навучанне польскай мове распачалося ў шасці школах, а па цэлай Гродзенскай вобласці назбіралася іх больш за дваццаць.

— Пачынаць нам даводзілася літаральна ад нуля, — кажа дырэктар Язэп Лучнік. — Раённы аддзел народнай асветы няшмат паклапаціўся, каб забяспечыць усё неабходнае для наладжання правідловага педагагічнага працэсу. Мне самому, для прыкладу, даводзілася ездзіць да суседзяў-літоўцаў за адпаведнымі падручнікамі...

Тут я даведаўся, што падручнікі для навучання польскай мове друкуюцца ў Каўнасе. І патрэбны быў бы фармальны заказ ад Міністэрства асветы БССР, каб каўнаскае выдавецтва абяспечыла падручнікамі школы і ў Беларусі.

— Ды не толькі справа ў падручніках, — адазваўся старшыня Тадэвуш Гавін. — Маем тут шмат так званых „пашпартных“ палякаў, якія адмоўна ставяцца да навучання дзяцей польскай мове ў школах.

Ды і здзіўляцца няма чаму, бо ў нас, у Беластоку, і па вёсках ды мястэчках Беласточчыны, гэтакіх прыкладаў, зразумела, у адносінах да беларускай мовы, хоць адбаўляй.

Я пацікавіўся бліжэйшымі планамі дзейнасці Польскага культурна-асветнага таварыства імя Адама Міцкевіча ў Гродне.

— Уся наша дзейнасць добраахвотная, на грамадскіх пачатках заснаваная, — адзначыў старшыня Т. Гавін. — Будзем арганізаваць сходы і вечарыны з нагоды розных гадавін і свят.

А я ўжо ведаю, што наладзілі яны ўрачысты вечар з нагоды 45-ай гадавіны Войска Польскага.

— Хочам арганізаваць мастацкую самадзейнасць. Загадчыкам аддзела па аматарскаму руху ў нашым праўленні з'яўляецца намеснік дырэктара другой музычнай школы ў Гродне, **Рышард Клячкоўскі**. Ён ужо шукае таленавітых людзей, якія склалі б самадзейны калектыў.

— Польскі дзіцячы хор ужо існуе ў школе ў Сапоцькіна, — заявіў Язэп Лучнік. — Вядзе яго **Леанарда Шукець**. Калі гэты вучнёўскі хор выступаў са сваімі калядкамі ў час агляду народнай песні ў Скідзелі, дык людзі пыталі: з якога ваяводства Польшчы яны сюды прыехалі?

— Нічога дзіўнага, — пракаменціраваў Францішак Вітовіч. — То ж упершыню за сорак гадоў пачулі яны тут польскую песню.

Цяпер гэтая песня і польская мова будзе тут гучаць ужо часцей.

— Гэта дзякуючы новай палітыцы правадыроў партыі ў абедзвюх нашых краінах, — адзначаў Тадэвуш Гавін і паказаў мне пісьмо, якое гродзенскія палякі накіравалі М. С. Гарбачову і В. Ярузельскаму.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Гродна. Вуліца Элізы Ажэшкі, адна з важнейшых у горадзе.*

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# У НОВАЙ ШКОЛЕ

Ад пачатку гэтага навучальнага года дзеці амаль з усёй Нараўскай гміны з'язджаюцца вучыцца ў новую школу.

Нядаўна ў школе адбылося вялікае свята — будаўнікі ўрачыста перадалі школу дзецям і настаўнікам.

У апошнія дні перад вызначаным тэрмінам у школе быў асабліва гарачы час — трэба было падрыхтаваць школу на прыём важных гасцей з усёй Польшчы. Уключыліся ў работу ўсе класы. Дзеці чысцілі, мылі, шаравалі, глянцавалі ўсё да бляску, насілі сталы, крэслы. Вядома ж, новая школа, дык і новае абсталяванне. Моцна папрацавалі ўсе: і дзеці, і дарослыя. Нават кіраўнік будовы захапляўся працай дзяцей. У размове з рэдактарам „Зоркі" ён сказаў:

— Ну і працавалі ж малыя! Столькі памаглі! Проста малайцы!

І сапраўды. І школа была падрыхтавана на пяцёрку, і гасцей сустракалі з вялікім сэрцам. Чакалі гасцей ужо з самай раніцы, віталі ўсіх ужо пры ўваходзе ў школу, паказвалі новы будынак. І хоць быў халодны ранак, ніхто не наракаў, што змёрз ці замарыўся. Усе былі ва ўзнятым настроі — гэта ж такое свята! Аб новай школе марыла не адно пакаленне нараўскіх дзяцей. І вось яна, новая школа!



Ганаровая варта найлепшых вучняў школы ля новага школьнага сцягу. На сцягу — партрэт патрона школы генерала Зыгмунта Берлінга.

Аб ходзе ўрачыстасці будзе яшчэ пісаць „Ніва". Усё было вельмі добра. Але тады ж „Зорка" даведалася, што ў новай школе вельмі мала дзяцей хоча вывучаць родную мову. Ці гэта праўда? Ці сапраўды ў другім класе ніхто не пачаў вучыцца беларускай мове? Вельмі сумная гэта вестка. Маю надзею, што дзеці са школы ў Нарве адгукнуцца на гэтыя мае словы. Спадзяюся, што не перастануць чытаць „Зорку" ў Нарве і што будзе расці новае пакаленне нашых чытачоў.

Жадаю ўсім дзецям такой прыгожай школы, а дзецям з Нарвы — быць сапраўднымі гаспадарамі ў сваёй школе, дбаць пра яе выгляд і выдатна вучыцца.

„Зорка".
Фота аўтара



Вучні школы на пастраенні для павітання гасцей.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Васіль Зуёнак

### ПАДАРУНАК

У газеце „Ёлкі-палкі"
Мішка касалапы,
Да навін ахвочы змалку,
Вычытаць патрапіў,
Што на свеце цудаў шмат:
За лясамі недзе,
Пэўна, ёсць у Мішкі брат,
Бо завуць — мядзведзем.

Толькі белы ён чаму?
Знаць, зліняў на сонцы,
Знаць, не соладка яму
На чужой старонцы,
Знаць, пакутуе бядняк:
Ні цяньку, ні мёду.
І рашае Мішка так
З гэтае нагоды:

Хопіць думаць ды мычаць —
Трэба зваць суседзяў,
Трэба ж неяк выручаць
Белага мядзведзя...

Касалапая сям'я
Ўміг прыйшла да згоды:
Выслаць ліпавы стаяк
Ліпавага мёду.
А каб спёка кожны дзень
Брата не трывожыла,
Той жа поштай хай ідзе
Бочка з марожаным!
Як сказалі — так і ёсць,
Падпісалі скрынкі...
Ходзіць Мішка-ягамосць
Ды глытае слінкі...
Падкаціў вільготны ком
Аж да самай глоткі...
І танюткім галаском,
Жаласна-дрыготкім,
Раптам Мішка стаў шаптаць:
Грамада-суседзі,
Лепей брату напісаць:
Хай у госці едзе...
А пакуль што —
мёд глынём
Ды зап'ём вадзіцай.
А марожаным —
пачнём
Самі халадзіцца!..
...Прамінуў і год,
і тры —
Белага мядзведзя
Ўсё чакаюць у бары:
Надта ціха едзе...

Станіслаў Шушкевіч

### НЕПАСЕДЛІВЫЯ ВАВЁРКІ

Павесілі шторкі
У дупле вавёркі,
Каб малыя добра спалі,
Камары іх не кусалі...
Але ж дзеці ад світання,
І, вядома, да снядання,
Высунулі пысачкі,
Хочуць з хаты выскачыць.
Кажуць маме, чорны дзяцел
Не дае ім спаць у хаце,
Вострай дзюбай грукае,
Па сасонцы цюкае.
— Дазволь, наша мамачка,
Нагуляць на ганачку!
Глянь, ужо на соснах
З досвіту не росна.
Вазьмі з сабой у ляшчыннік,
Мы не згубімся, не згінем.

**Уладзімір Ліпскі**

# СПОВЕДЗЬ ШПУНДЗІКА

**(Урыўкі з аповесці)**

Дзіўны народ сталыя людзі. Аніяк не ўцяміць, як нас называць, як з намі быць. Колькі кніг панапісвалі пра наш цяжкі ўзрост. Гэта ж трэба, прыдумалі — падлеткі! Калі мы толькі падлеткі, то яны старыя клекатуны.

Мяне ж закалыхвалі, дый і то з угаворамі, пакуль дундзіў соску. А як навучыўся чытаць і пісаць, здарылася гэта яшчэ за год да школы, дык з тае пары і лічу сябе дарослым.

Ды я дарослым быў ужо тады, калі камандаваў алавянымі салдацікамі. Маё войска не раз брала непрыступныя крэпасці, не раз вярталася з перамогай.

А ўжо ў сем гадоў я пайшоў штурмаваць крэпасць роднай мовы і алгебры. Ну няхай не сам пайшоў, а мяне павялі за ручку. Але ж мяне ніхто не падмяняў ля дошкі, за партай. Ніхто за мяне хатніх заданняў не выконваў. Сам усё. Вось ужо восем доўгіх гадоў сам караскаюся па крутых школьных вяршынях. Дарослыя, дзівакі, думаюць, што цягнуць мяне на тую вяршыню.

Ім — каб хутчэй дабраўся да таго месца, дзе яны самі сядзяць, каб ішоў той жа сцяжынкай, якой яны хадзілі. А мне, наадварот, хочацца лезці чмырэзнікам, ахвота закасаць калашыны і памераць лужыны, ускараскацца на самую верхавіну дрэва і пабачыць, як выглядае адтуль мой горад. Для дарослых — гэта дзікунства. А я проста дзічэю ад іхніх выкрыкаў: „нельга!", „не руш!", „не трэба!", „не хадзі!", „не бойся!".

Для мяне, як двойчы два зразумела, што дарослым чалавек становіцца тады, калі пачынае рабіць нешта вельмі важнае, калі займаецца нечым усур'ёз. Вучоба ў школе — гэта не жартачкі. Не лягчэйшая работа, чым у кантралёркі кінатэатра цёткі Гэлі. Сядзіць, білецікі адрывае. А яна ж, цётка Гэля, яшчэ і абзывае нас гультаямі лахматымі, ёлупамі даўгалыгімі. Крыўдна: цягнеш „дарослую лямку" восем гадоў, як я вось, а цябе лічаць бязглуздым дзіцём, усяго толькі нейкім там падлеткам.

— * —

Шпундзікам мяне празвалі даўно. Яшчэ ў другім класе. Як гэта атрымалася, я і сам не згадаю. Мо таму, што прыйшоў у школу малым? Ці таму, што ўсюды соваў свой нос? Каму-небудзь вушы дзяруць — і я там. Збяруцца хлопцы за рогам школы, кураць — і я кручуся ля іх. Нехта раз абазваў Шпундзікам і панеслася-пакацілася. З году ў год, з класа ў клас. І сам ужо звыкся, што я — Шпундзік. Нейкая нават перавага ў тым ёсць, што цябе перайначылі. Значыць, прыкмецілі.

А дома мяне Сяргейкам завуць, Сярожам, Сяргунчыкам, Сярожачкам. Мне аж млосна ад такой саладжавасці. Ну, быў малы, хай сабе і Сяргунчык. А які я ім цяпер Сяргунчык? Прымяраў неяк бацькавы касцюм. Быў бы ў сам раз, каб не вырака вараты.

Джынсы люблю. Яны не даюць целу пухнуць. У іх адчуваеш сябе падцягнутым. Ой, а колькі ж панакленчыў у мацеры, каб купіла.

*Працяг будзе*

## Пішуць школьнікі

**ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!**

Наш клас у гэтым навучальным годзе ходзіць на гуртох беларускай мовы. На гуртку мы рыхтуем сцэнкі і спяваем песні. Першай сцэнкай „Квяцісты паркаль" мы пахваліліся перад настаўнікамі ў Дзень іх свята. Сцэнка ім вельмі спадабалася. Гэтую сцэнку мы будзем прадстаўляць на конкурсе ў Орлі. Мы ўсе хочам заняць добрае месца.

З сардэчным прывітаннем

**вучаніца 6 класа Агнешка Рагоза, Орля.**

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!**

Першы раз адважыўся напісаць пісьмо да Цябе з падзякай за цікавыя твае старонкі. Люблю беларускую мову і чытаю з прыемнасцю „Ніву" і „Зорку". Напісаў я верш, які высылаю і прашу, каб яго надрукавалі ў „Зорцы". Хачу, каб сябры яго прачыталі. І няхай таксама пішуць свае вершы. Я таксама буду з цікавасцю іх чытаць.

Я жыву ў вёсцы Крывяцічы і даязджаю да школы ў Орлі. Вучуся ў пятым класе.

**Дружба Марэк.**

### САМ

Я старанна чышчу зубы
Раніцою кожны раз.
Не такі я ўжо маленькі,
Бо хаджу у пяты клас.

### ДЗЕЦІ

Ідуць дзеці ў школу,
Смяюцца і скачуць.
А птушкі ў паветры
Лятаюць і крачуць.

Настаўніца наша
У клас увайшла,
Нас прывітала
Заданне дала.

Урокі пытаца
У нас пачала.
Усе іх зрабілі.
Не ўмеў толькі я.

Вяртаўся дахаты,
Спусціў галаву,
Бо цяжка было мне
З двойкай аднаму.

## малюнкі школьнікаў



**„Варшава". Маляваў Марцін Куптэль, вучань другога класа школы № 3 у Бельску.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

— * —

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 21, кв. 6. Оля Дзяруга. 5 клас.

— * —

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Красное, зав. Карбышэва 3, кв. 2. Чупраковай Таццяне.

— * —

БССР, 220035, г. Мінск, праспект Машэрава, 43, корпус 2, кв. 65. Дарохіна Наташа. 4 клас.

* * *

БССР, 220101, г. Мінск, вул. Якубава, 6, кв. 503. Ляпешка Ірыне. 4 клас.

* * *

СССР, 686323, Магаданская обл., Сусуманский район, посёлок Широкий, дом 20, кв. 5, Драцкой Наталье.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 100, кв. 20. Кірыл Красоўскі. 5 клас.

* * *

БССР, 225532, Беражное, Брэсцкай вобласці, Столінскі раён, вул. Школьная, 24, кв. 7. Наталля Клепча. 9 клас.

## Вясёлы куточак

* * *

— Ведаеш, Ірынка, у мяне брацік нарадзіўся.
— Віншую. А на каго падобны?
— На дзеда.
— Няўжо? І з вусамі?

* * *

У краме:
— Гэтыя нарты могуць быць для вас трохі даўгаватыя, — пераконвае прадаўшчыца. — Але гэта вам толькі на карысць. Калі паламаюцца — яшчэ дзецям будуць.

* * *

Прыйшла цётка Ганна ў краму і наракае:
— Учора я паслала свайго сына, каб купіў 3 кілаграмы яблыкаў. Ён прынёс дадому толькі 2 кг, хоць заплаціў за тры.
— Цётка Ганна, — тлумачыцца прадаўшчыца, — у мяне добрая вага. Але вы другі раз зважце і свайго сына.

* * *

Янка памагаў дома пры выветрыванні пасцелі.
— Мне і ў галаву нешта такое не прыйшло б, — кажа яго сябар Міша.
— І мне не прыйшло б, — згаджаецца Янка, — толькі маё мама.

* * *

Перад прадшколлем ляжала пара рукавічак. Выхавацелька паказвае іх дзецям.
— Чые гэта рукавічкі?
Каця дакладна агледзела рукавічкі ды кажа:
— Выходзіць, што мае. Але мае павінны быць у іншым месцы.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




Колькі пунктаў здабыў каўбой, страляючы ў цэль, калі сярэдні круг дае 10 пунктаў, наступны — 8, потым 5 і 3, а першы знешні круг — 1.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка"

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

Павольна, з пачуццём

## РОСТАНЬ

*Музыка І. Лучанка* *Словы Г. Скурко*

*Зноў разбудзіў птушыны спеў світанне,*
*І разам з песняй кружыць развітанне.*
*І сум, як жоўты шум лясны...*
*Ды белым бэзам пахнуць сны.*
*Няўжо і мне ў цішыні світальнай!..*
*Ляцець у след за песняй развітальнай!..*
*Хоць сум навёў шум лясны,*
*Ды пра вясну мне сняцца сны,*
*І пра цябе мне сняцца сны.*

*Прыпеў:*
*А ростань наша прамінае,*
*Зноў быць вясне!*
*І водарам закружыць нас*
*Цвіцення час!*

*Мне сум навеяў шум лясны,*
*Ды белым бэзам пахнуць сны,*
*І пра вясну мне сняцца сны,*
*І пра цябе мне сняцца сны.*

# НІЎКА

## НЕ ПАВІННЫ БЫЦЬ ЦІКАЎНЫМІ

— Ты зноў з'еў усе цукеркі, Пятрусь? Ведаеш, што за гэта будзе?

— Я не хачу ведаць, мама, ты ж сама гаварыла, што дзеці не павінны быць цікаўнымі.

## НЕ ЗНАЛА ЗНАКАЎ

Маладая жанчына бестурботна праехала на аўтамашыне пад знак „Стоп". Паліцэйскі спыніў яе і спытаў:

— Ці ведаеце вы, што гэта за знак?

— Уяўлення не маю, — адказала жанчына, — але калі вам вельмі цікава, можна было б спытаць прадаўца ў суседнім кіёску.

Нечаканы прыз.

## ПАСЛЯ ЗАЙДУ

— Максімчык, хадзі першачку чарку хлябусні.
— Пачакай паўгадзіны. Вось прачытаю ў вашым клубе лекцыю „Аб шкодзе алкаголю", тады зайду.

Калі хочаш ведаць, што аб табе думаюць, зняваж свайго суседа.

**ВІКТАР АКУЛІЧ**

## АДНОЙЧЫ

Болі схапілі адну маладзіцу.
Муж к тэлефону:
— Алё!.. Райбальніца?
Жонцы нядобра, хутчэй дапамогу!
Адрас?.. Парадак! Няхай пачакае.
Хуткую зараз прышлем дапамогу.
Трубку мужчына кладзе. „Дзякуй богу", —
Урэшце з палёгкай ён уздыхае...
Шум, беганіну паднялі у бальніцы.
Урач медсястру выклікае:
— Сястрыца!
Збегаць патрэба дахаты к шаферу,
Ехаць павінен у вёску, да хворай.
А медсястра санітарку гукае:
— Справа сур'ёзна ёсць тут такая,
Збегай хутчэй на кватэру к шаферу,
Ехаць патрэба у вёску, да хворай...
Так, пакуль выйшла з раёна машына,
Мабыць, прайшла не адна ўжо гадзіна.
Праўда, шафёр гнаў машыну, спяшаўся,
Ды, як на ліха, матор сапсаваўся.
Ехаць жа трэба яшчэ з паўдарогі, —
Вось дачакайся такой „дапамогі".
Што ж з той жанчынай, развязка якая?
Ужо дапамогі яна не чакае —
Сын у яе нарадзіўся на славу,
Толькі з прэтэнзіяй, кажуць, к райздраву.

## УНІКЛІВЫЯ ДУМКІ

Чалавек з'яўляецца тым, чым ён становіцца, астаючыся з самім сабою. Сапраўдная чалавечая сутнасць выражаецца ў ім тады, калі яго ўчынкамі рухае не хтосьці, а яго уласная сумленнасць.

**Васіль Сухамлінскі** (1918—1970), педагог

## СКЛАДАНАЯ СІТУАЦЫЯ

У дырыжора Артура Тасканіні запыталі, чаму ў складзе яго аркестра ніколі не было ніводнай жанчыны.

— Справа ў тым, — адказаў маэстра, — што жанчыны вельмі перашкаджаюць. Калі яны прыгожыя, дык перашкаджаюць маім музыкантам, а калі яны не прыгожыя, дык яшчэ больш перашкаджаюць мне.

## ГАВОРАЦЬ ДЗЕЦІ

Мама ўгаварвае дачку:
— Ты абавязкова павінна з'есці кашу. Ведаеш, у каго ператвараюцца тыя, хто не есць кашы?

— Ведаю, у манекеншчыц.

## ВЕДАЎ МАЛА, А ХІТРАСЦІ МНОГА

— Скажы, П'ер, хто быў бацькам Людвіка Шаснаццатага?

— Людвік Пятнаццаты.

— А хто быў бацькам Карла Сёмага?

— Карл Шосты.

— Усё гэта добра, але хто ж быў бацькам Францыска Першага.

— Францыск быў сіратой.

## Між намі

Будзь першым, калі трэба слухаць, і апошнім, калі трэба гаварыць.